


Застэмп «Вікінгаў» з Плёсак. Першы злева — застэмповы Толік Філіпюк.
Фота Я. Чэрнякевіч

№ 43 (822) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 28.X.1973 г.

**Станіслаў Шушкевіч**

## Ліса-ашуканка

Зайка з кошыкам пустым
Прабіраўся праз кусты
І апёк аб крапіву
Хвосцік, нос і галаву.
Ён лісе старой паверыў,
Што капусты там без меры,
Морква ёсць і ёсць мурог,
Пачастункаў цэлы стог.
Дом у зайца стаў пустым,
Калі лез ён у кусты:
Прайдзісветка, абдзірала,
Усё абкрала і забрала.
І цяпер ля дрэва трэцца,
Ухмыляецца, смяецца...



## Цяцёрчына вячэра

— Цяцера, цяцера,
Ці гатова вячэра?
Дзеткі плачуць ледзь жывыя,
На іх воўк глядзіць і вые.
— Хай не шчэрыцца клыкаты,
А ідзе хутчэй дахаты,
Я не дам яму ні крошкі,
Я не дам яму ні трошкі.
— Цяцера, цяцера,
Кліч вавёрку вячэраць.
Яна спрытна скакала,
Тваіх дзетак склікала,
— Пазаву я вавёрку,
Пазаву я салоўку,
Берасцянку і пліску,
Дам зацеркі ім міску.

* * *

Наеліся ў цяцеры
Усе птушкі вячэры,
Як у роднай матулі,
На галінках паснулі.

**Расціслаў Бензярук**

## Чаму чырванее лісце?

Вясной Зіна з Пецем пасадзілі клёнік. За лета клёнік так вырас, што Зіна не магла дацягнуцца да яго верхавінкі.

Аднойчы яна выглянула ў акно і ўбачыла, што адзін лісток на клёніку стаў чырвоны. Як сцяжок!

Падвечар наляцеў на дрэўца вецер і сарваў лісток. Зіна падняла яго і прынесла ў хату. «Дам Пецю, — падумала яна, — няхай засушыць».

Назаўтра на клёніку было ўжо некалькі чырвоных лісткоў, а потым усё дрэва пачырванела. Шкадавала Зіна, калі вецер скідаў на зямлю прыгожае лісце.

— Нічога, вясной новыя лісты вырастуць. Зялёныя, — суцяшала яе мама.

— А ўвосень зноў пачырванеюць?

— Ага.

— А я ведаю, — раптам сказала Зіна, — чаму лісты чырванеюць. Каб мы іх шкадавалі і ўспаміналі зімою.



# ТАКАЦІ ГАРОШАК

**(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА)**

**(Заканчэнне)**

— Не вельмі яшчэ і змарыліся, — усміхаецца Пакацігарошак. — Я з вялікай дарогі прыйшоў, і то нішто сябе пачуваю. А ты вылежваешся, як пан.

Падумаў Цмок, пакруціў галавою і кажа:

— Відаць, хлопча, ты заб'еш мяне.

— Дзеля гэтага я і прыйшоў!

— Пакінь мне хоць палавіну жыцця, — заенчыў Цмок. — Бяры сабе ўсё маё багацце, але не дабівай зусім.

— Не, нячыстая сіла, не будзе гэтага! Ты абазваў мяне малакасосам, абняславіў, а цяпер ратунку просіш? Няма табе ратунку!

Вырваўся Пакацігарошак з сярэбранага току і давай перыць булавою Цмока. Біў, біў і ўвагнаў яго ў медны ток па самыя вушы.

Тут Цмоку і канцы прыйшлі.

Адпачыў крыху Пакацігарошак і пайшоў у Цмокаву стайню. Вывеў аднаго жарабца ў поле, злупіў з яго шкуру мяшком, сам залез у той мяшок. Сядзіць там, чакае.

Прылятае крумкач з крумкачанём. Пачалі шкуру дзяўбсці. А Пакацігарошак — цоп! — крумкачаня за нагу.

Убачыў гэта стары крумкач, загаварыў чалавечым голасам:

— Хто тут?

—Я, Пакацігарошак.

— Аддай маё дзіця.

— Дастань гаючай і жывучай вады — аддам.

— Добра, — згадзіўся крумкач. — Дастану.

Узяў ён два вядзерцы і паляцеў за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства. А ў тым царстве з адной гары выцякала крыніца з гаючай вадою, а з другой — з вадою жывучай. Набраў крумкач вады адной і другой ды вярнуўся назад.

— На, — кажа Пакацігарошку, — табе ваду, толькі вярні мне дзіця.

Тут Пакацігарошак як бач разарваў крумкачаня на дзве часткі.

— Ай-ай — загаласіў стары крумкач. — Што ты нарабіў?

— Нічога, — кажа Пакацігарошак. — Гэта я дзеля пробы.

Папырскаў ён крумкачаня вадою гаючай — стала яно цэлым, папырскаў жывучай — ажыло.

— Ну, вось бачыш, — радуецца Пакацігарошак, — цяпер я ведаю, якая гэта вада.

Падзякаваў ён старому крумкачу, а сам пайшоў на стайню да мёртвых братоў. Папырскаў іх жывучай вадою — ажылі браты, папырскаў гаючай — выраслі вочы.

— Ай, — кажуць браты, — як жа доўга мы спалі.

— Спаць бы вам векі вечныя, каб не я, — адказвае Пакацігарошак.

Браты працерлі вочы, углядаюцца.

— Хто ты такі? — пытаюцца ў Пакацігарошка.

— Ваш брат.

— Не, — запярэчыў малодшы брат, — у нас братоў болей не было. Ты маніш.

**(Працяг на стар. 8)**

П. Катаеў




Я ўжо прачнуўся, але ўсё яшчэ валяўся ў ложку, калі мама крыкнула з двара:

— Уставай, да цябе госці!

Хто б гэта мог быць? Мабыць, Сашка, мой найлепшы сябар. Штодзень мы з ім сустракаемся з самай раніцы. Бывае, я да яго першы прыходжу, здараецца, ён.

Я не памыліўся. Гэта быў Сашка, але не адзін, а са сваім татам. Выгляд у майго сябра быў урачысты— адпрасаваная кашуля, валасы прычэсаны і блішчаць.

Як толькі я паказаўся на ганку, Саша крыкнуў:

— Прыходзь да мяне! Пачатак у пяць гадзін. Не пашкадуеш!

— У яго дзень нараджэння, — паясніў тата, вітаючыся са мною за руку, як з дарослым. — Запрашаем у госці.

Не паспелі яны схавацца за рог будынка, як я ўжо пачаў чакаць. Падумаць толькі: у пяць гадзін, а цяпер толькі дзевятая раніцы — і чакаць трэба цэлую вечнасць.

У час снедання мама спытала:

— Што ты падарыш Сашу?

— Як што? Пайду ў краму і куплю падарунак.

Мама сумна паглядзела на мяне і спачувальна паківала галавой.

— Сёння нядзеля, крама зачынена.

Гэтага я не чакаў! І ведаў жа пра дзень нараджэння, а забыўся! А як пайсці на дзень нараджэння без падарунка?

— Не сумуй, — сказала мама. — Заўтра мы з табой купім яму добрую цацку.

— Дык тое заўтра, а мне трэба сёння...

— Так, не вельмі добра ісці да найлепшага сябра на дзень нараджэння з пустымі рукамі, — згадзілася мама. — — Але я, здаецца, ведаю выхад: напішы Сашу пісьмо.

— Пісьмо?

— Так. Павіншуй яго з днём нараджэння і напішы, што падарунак прынясеш заўтра. Праўда?

Пэўна, што праўда. Іменна пісьмо!

Не адкладваючы справу на потым, я ўзяўся за работу.

Мае пальцы не слухаліся, былі як чужыя. Часам пяро рвала паперу, іншы раз на кончыку пяра аказвалася нейкая смецінка, і ўсе літары з кружочкамі — О, Р, В, Ю і гэтак далей, — замазваліся чарнілам.

Я комкаў чарговы лісток і ўсё пачыналася спачатку. Аднак нарэшце пісьмо было скончана.

Гатовае пісьмо ляжала на стале і чакала свайго часу. Час ад часу я браў канверт, вымаў з яго пісьмо і любаваўся сваёй работай — прыгожыя літары, белая папера, канверт з маркай. У пісьме гаварылася аб заўтрашнім падарунку, але яно само па сабе было лепшае за ўсякі падарунак!

— Пакінь ты пісьмо ў спакоі, — папярэджвала мама мяне. — Ты яго запэцкаеш бруднымі пальцамі, або яшчэ, чаго добрага, згубіш!

«Пабрудзіць дык, можа, і пабруджу, — думаў я. — Але ўжо нізавошта не згублю!»

* ⁂ *

Сашава мама выглянула з кухні:

— Што, ужо пятая гадзіна?

— Амаль, — сказаў я. — Чацвертая!

— Усё роўна, заходзь, Саша цябе дачакацца не можа!



Калі замест падарунка я ўручыў Сашку канверт, ён нават раззлаваўся:

— Што гэта?

— Прачытаеш — даведаешся! — горда сказаў я.

І вось мы селі вакол стала. Перад намі стаялі талеркі з усякімі смачнымі рэчамі. Што і казаць: дзень нараджэння — гэта дзень нараджэння!

Я горда сядзеў на табурэтцы і забыць не мог пра сваё пісьмо. Ці ж можна параўнаць да яго хоць адзін з падарункаў, якія былі прынесены сёння Сашку на дзень нараджэння! Вядома, не!

Мне было нават крыўдна, што Сашка занёс яго некуды і нават забыўся. А яшчэ найлепшы сябар! Хоць бы паказаў сваім маме і тату!

Сонца зайшло. Сашава мама запаліла святло. Трэба было ісці дадому.

І вось калі я ўжо падышоў да брамкі, мяне аклікнуў Сашаў тата, размахваючы нечым белым. Дык гэта ж маё пісьмо! Нарэшце ўспомнілі!

— Скажы, калі ласка, што гэта мае азначаць?

Я насцярожыўся, трывожнае прадчуванне заварушылася ў маёй душы.

— Пісьмо для Сашкі, — сказаў я і дадаў: — А падарунак будзе заўтра!

— Дзіўна, — сказаў Сашаў тата, перавярнуў канверт і патрос ім над галавой. — Пісьма тут ніякага няма! Пусты канверт!

Як жа так? Дзе ж яно? Я ж яго так доўга пісаў! Яно ж атрымалася такім прыгожым!

Убегшы ў свой пакой, я ўбачыў на падлозе складзены ўчацвёра знаёмы лісток паперы. Так, гэта было пісьмо. Разгарнуўшы яго, я прачытаў: «Дарагі Саша! Віншую цябе з днём нараджэння. Я прыйшоў без падарунка, таму што сёння нядзеля. Але заўтра...»

На наступны дзень мы з мамай купілі ў краме грузавік-самазвал. Сашку вельмі спадабаўся падарунак, але мне было сумна глядзець на цацку, такой нецікавай яна мне здалася. А злашчаснае пісьмо, раней такое прыгожае, а цяпер нікому непатрэбнае, яшчэ доўга траплялася мне пад руку, але я ніяк не адважваўся выкінуць яго.

## АПАВЯДАННЕ АБ СМЕЛЫХ ЛЮДЗЯХ




Калі цябе запытаюць, якім быў доктар Айбаліць, ты, мабыць, адкажаш не задумваючыся: добрым. Праўда, так і ў кніжцы аб ім гаворыцца.

Але аднойчы доктар Айбаліць быў не толькі добрым. Ён быў яшчэ і адважным. Успомні: для таго, каб ратаваць хворых малп, яму трэба было плысці праз мора на кіце, ляцець высока над хмарамі на арле. І крывасмока Бармалея ён не спалохаўся.

Шмат дактароў Айбаліцяў жыве на свеце. Адны лечаць коней, кароў, авечак, кошак, сабак, і іх называюць ветэрынарамі.

Ветэрынары павінны быць вельмі адважнымі людзьмі. Гэта ж толькі ў добрай казцы і шакал, і ваўчыца, і мядзведзь самі прыходзяць на прыём у лясную бальніцу. А на самай справе звера вельмі цяжка змусіць прыняць лякарства або спакойна вытрымаць укол. Звеpу не скажаш: «Адчыні рот... дышы... не дышы...» Праўда, хворая жывёла часта чакае дапамогі ад чалавека. Але бывае, што яна і не зразумее, чаго да яго падыходзіць чалавек у белым халаце, з баначкай мазі ці са шпрыцам у руках. Можа і ўкусіць, і падрапаць, і ўдарыць...

Лекары-ветэрынары ёсць у кожным горадзе, кожным сяле. Ёсць яны і ў заапарках. Бо там таксама трэба лячыць звяроў, калі яны захварэюць.

Аднойчы ў Маскоўскім заапарку ў кракадзіліцы Малышкі забалеў зуб. Яна пачала адмаўляцца ад ежы. Яе дражніла, калі служачыя заходзілі да яе ў басейн. Малышка расчыняла жоўта-лімонную пашчу з шэрагам вострых, загнутых назад зубоў і страшна сычэла.

І вось неяк раз, калі Малышка раскрыла пашчу, доктар ветэрынар заўважыў невялікую пухліну на жоўтай кракадзілавай дзясне каля аднаго зуба.

Трэба было прыдумаць, як Малышцы вырваць хворы зуб. Не так гэта проста. Спрабуй, сунься да яе ў пашчу!

Нарэшце быў апрацаваны план. З драўлянага бруска зрабілі кругляк, пракруцілі наскрозь яго і ўцягнулі праз яго моцную вяроўку. І аднойчы адразу шэсць чалавек увайшлі ў басейн, дзе ляжала хворая кракадзіліца. Узяўшыся за канцы вяроўкі, двое служачых сталі напагатове.

— Увага! — скамандаваў доктар, узяўшы бліскучыя шчыпцы, і дадаў: — Пайшлі!

Звычайнай мятлой памочніца

**(Працяг на стар. 8)**



# ІХ ПРАЦУ БАЧАЦЬ ЛЮДЗІ

Нядаўна «Зорка» атрымала пісьмо. Пісаў старэйшы жыхар з вёскі Плёскі. «Дарагая рэдакцыя, — пісаў ён. — Хачу вас папрасіць, каб вы напісалі пра гарцэрак з вёскі Плёскі, вучаніц шостага і сёмага класа. Бо гэтыя дзяўчынкі — Марыся Дзмітрук, Марыся Барута, Валя Максімюк, Аля Філіпюк, Іра Панасюк і Люда Кас'янюк — вельмі прыгожа ўпарадкавалі вясковы прыпынак ПКС. Люба паглядзець на іх працу».

Не першы ўжо раз дарослыя людзі дацэньваюць працу дзяцей. Але кожны раз дзеці яшчэ мацней адчуваюць, што іх праца патрэбна, і набіраюць ахвоты да далейшай працы для сваёй вёскі.

Людзі заўважылі працу дзяўчатак на прыпынку. А я дадам, што хлопцы таксама любяць тут парадак. Яны ўжо даўно апякуюцца



**Найлепшыя спартсменкі школы Геня Ляшэўская і Валя Харытанюк.**



**Яўгень Бала і Яўгень Максімюк.**

месцам, дзе загінулі партызаны. Месца гэта абгарадзілі, паставілі побач новую лавачку, пасадзілі кветкі і рэгулярна наглядаюць тут за парадкам. Займаецца гэтым застэмп «Вікінгаў», які вы бачыце на першай старонцы «Зоркі».

Плёскаўскія дзяўчаты славяцца ў ваколіцы сваім спевам. Яны заваявалі добрыя месцы ў школьным конкурсе беларускай песні ўжо не адзін раз, а выпускніцы школы прадаўжаюць спяваць, вучачыся ў сярэдніх школах. Як, напрыклад, Рая Іванюк. У беларускі ліцэй у Бельску пайшла таксама вучыцца ў гэтым годзе найлепшая матэматычка школы Яўгенія Барута.

У першыя ж дні навукі героямі дня ў школе сталі найлепшыя спартсмены. Бо яны заваявалі першае месца ў гмінным школьнай алімпіядзе. Іх вы бачыце на здымках.

**Яніна Чэрнякевіч**
**(фота аўтара)**

(Працяг са стар. 6)

## АДВАЖНЫ ДОКТАР АЙБАЛІЦЬ

доктара лёгенька даткнула Малышку ў нос. Раскрылася страшная пашча. Мужчыны хутка ўставілі ў гэту пашчу драўляны кругляк, каб яна не магла захлопнуцца. Адна памочніца моцна абхапіла рукамі ў брэзентавых рукавіцах хвост з вострымі шыпамі. Іншыя схапілі кракадзіліцу за лапы. А доктар сунуў руку са шчыпцамі ў страшную пашчу.

Аперацыя была разлічана што да секунды. Яе трэба было скончыць, пакуль Малышка не апомнілася ад нечаканасці.

Ну, а калі б паспела апомніцца? Калі б не хапіла ў жанчыны сіл утрымаць магутны кракадзілаў хвост? Калі б раззлаваная кракадзіліца вырвала хоць адну лапу? Калі б вострыя кракадзілавы зубы змяжджылі кругляк, які ўжо пачаў трашчаць, гатовы вось-вось рассыпацца?

Але памятаеш? Доктар Айбаліць быў не толькі добры, але і адважны, і, дапамагаючы хворай кракадзіліцы, доктар не думаў аб небяспецы. А можа і сама Малышка зразумела, што адважны гэты чалавек пазбавіць яе ад нязноснага болю.

Як бы там ні было, але яна не вырывалася, не кусалася і не драпалася, і не біла хвастом...

А на другі дзень з апетытам з'ела снеданне.

**А. Сакалоўскі**

(Працяг са стар. 3)

## Пакацігарошак

А большы брат кажа:

— Ну што ж. Хто б ты ні быў, а калі нас з бяды вызваліў, дык ты нам і брат.



Абнялі браты Пакацігарошка, падзякавалі яму. А потым спалілі Цмокаў касцяны палац, забралі сястру ды паехалі ўсе разам дахаты. І справілі там банкет — на ўвесь свет.

Я ў іх быў, мёд, віно піў, па барадзе цякло, а ў роце не было.

**Апрацоўка А. Якімовіча**

## АДГАДАНКА



Колькі буслоў на гэтым малюнку? Палічыце іх.

**Адрас рэдакцыі:** 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Zorka" BZGraf, K-1